Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

ЦАНА НУМАРУ 20 ГР

№ 15 Чацьвер 2 Жніўня 1928 г. м. Вільня. Го

# ГРАМАДЗЯН[illegible]

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМА[illegible]НАЙ Д[illegible]

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫ[illegible]

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5.

АБВЕСТКІ ПА [illegible]



## Паўночная выстаўка.

Над вялізарным значэньнем выставак ці кірмашаў наагул у гаспадарчым жыцьці дзяржаваў ня прыходзіцца затрымліванца. Лепшым доказам гэтага зьяўляецца тое, што найбольш прамысловыя дзяржавы, як Нямеччына, Францыя, Англія, Швэцыя, Амэрыка і іншыя выстаўкам удзеляюць вельмі шмат увагі. Выстаўкі даюць магчымасьць усебаковага азнакамленьня з запраўдным станам гаспадарчага жыцьця данай дзяржавы, ці часткі яе ў залежнасьці ад таго, будзе гэта выстаўка дзяржаўная ці краёвая. Бываюць на‘т выстаўкі агульна-сьвятовыя.

Паўночная выстаўка-кірмаш, якая адбудзецца ў Вільні ад 18 жніўня да 9 верасьня, мае выключна краёвы характар. У заданьне яе уваходзіць галоўным чынам паказ гаспадарчых здольнасьцяў і дасягненьняў нашага Краю. Хаця ў ёй прымуць удзел і некаторыя з фірмаў Цэнтральнае і Заходняе Польшчы, якія дастаўляюць свае тавары для збыту у наш Край, як сельска-гаспадарчыя машыны, млынарскія прылады, электрычныя і г. д. Гэтак сама прылучыліся да ўдзелу ў выстаўцы і нашыя Прыбалтыйскія суседзі Латвія, Эстонія і Фінляндыя, з якімі у будучыне могуць паўстаць цесныя гаспадарчыя зносіны.

Гэтая выстаўка ў першы раз дасьць нам магчымасьць пазнаёміцца і пабачыць усё тое, што здабыта у сучасны момэнт у нашым Краі у галіне сельскае гаспадаркі, жывёлагадоўлі, ручной і хатняй вытворчасьці, садаводзтва, агародніцтва, лесаводзтва і г. д.

На выстаўцы між іншым будзе адчынены і Беларускі аддзел хатняга прамыслу, культуры і мастацтва, арганізаваны стараньнем Беларускага Навуковага Т-ва супольна з Галоўнаю Управаю Т-ва Беларускае Школы.

Усе Белурускія культурна-асьветныя арганізацыі, як Т-ва Беларускае Школы, Інстытут Гаспадаркі і Культуры і „Прасьвета“ павінны супольна прыйсьці на помач арганізатарам выстаўкі, хто чым можа: хто зьбіраньнем экспанатаў, а хто прапагандаю і заахвочванем да адведзін выстаўкі.

Кожны беларус, калі не мае сам чаго паказаць на выстаўцы, ці выставіць для прадажы, дык прынамся павінен паглядзець на тое, што іншыя выстаўляюць і чым багаты наш Край. Сваей зацікаўленасьцю да выстаўкі мы дадзім лепшы доказ сваей культурна-гаспадарчае дасьпеласьці, а шматлікімі адведзінамі пакажам беларускі характар нашага Краю.

Калі Урад не пашкадаваў вялікіх грашовых затратаў на арганізацыю Віленскай выстаўкі, дык мы з свайго боку павінны выкарыстаць яе, як мага для сябе.

Пасьпех Віленскай выстаўкі значна падыме культурна-гаспадарчую вартасьць у вачох нашых суседзьдзяў і гэтым самым прычыніцца да палепшаньня матар‘яльнага дабрабыту нашага Краю.

# Добры пачын.

Беларускі Нацыянальны Камітэт, на чале якога стаяць сэнатар Багдановіч і пасол Ярэміч (бо ёсьць яшчэ другі Беларускі Нацыянальны Камітэт) выняс між іншымі рэзалюцыю, у якой заклікае беларускую прэсу да спыненьня узаемнай грызьні і лаянкі, якая шмат шкодзіць Беларускаму Народу.

Адцяпіўшы гэты цьвярозы голас, трэба сканстатаваць, што ў апошні час крыху спынілася лаянка сярод беларускай прэсы, дасягнуўшая свайго найвышэйшага пункту у часе выбараў да Сойму. Толькі пытаньне, ці надоўга?

Хто меў магчымасьць у апошнія гады бліжэй пазнаёміцца з беларускім нацыянальным рухам у Зах. Беларусі, асабліва з тымі чыньнікамі, якія аказваюць галоўны уплыў на яго ход, у таго ня будзе места для аптымізму толькі дзеля таго, што на беларускім палітычным фронце паступіла часовае замірэньне. Бо тыя крыніцы, з якіх чэрпаюць беларускія газэты матар'ял для сваіх лаянак і узаемнай грызьні, як істнавалі да гэтае пары, так і далей істнуюць.

Галоўнаю адзнакаю нашага палітычнага жыцьця зьяўляецца тое, што у нас у апошні час распачалася не барацьба партыяў з партыямі, ці партыйных ідэалёгіяў і праграмаў, а барацьба асабістасьцяў, якія ў залежнасьці ад свайго выхаваньня, тэмпэрамэнту і пастаўляных мэтаў ўносяць у гэтую барацьбу асабісты характар. Вядзецца, напрыклад, не барацьба паміж Сялянскім Саюзам і Сялянскаю Партыяй, ці кірункам Усходнім і Заходнім, у якой прыймалі-бы удзел шырокія гушчы грамадзянства ці партыяў, а толькі між чаловымі асобамі. Дзякуючы гэтаму паўставалі рожныя партыі, як грыбы пасьля дажджу, якія праўда гэтак-жа хутка гінулі разам з банкрутствам сваіх амбітных павадыроў. Асабліва разьвілася лаянка ў прэсе у часе выбараў, калі у пагоні за мандатамі некаторыя з кандыдатаў утрацілі у перадвыбарчай барацьбе усялякую прызваітасьць. Тут ужо ня было меркі ў выбары сьродкаў, выразаў і формы барацьбы асабістасьцяў між сабою. Узаемныя абвінавачаньні у прадажнасьці былі на дзенным парадку.

Праўда некаторым больш спрытным з іх пашанцавала злавіць мандаты, але гэтая адорванасьць ад народу і атсутнасьць шырокай і моцнай партыйнай базы адчуваецца яшчэ да гэтае пары ў форме асабістае лаянкі. Калі часова яна спынілася ў беларускай прэсе, дык гэта трэба толькі вітаць, бо апрача таго, што усім абрыдла, яна шмат пашкодзіла Беларускаму Народу, які з сумлівам глядзіць, як яго павадыры, родныя браты і сыны аднаго Народу, тузяцца за чубы на радасьць сваім ворагам.

# Выстаўка Беларускага Хатняга прамыслу, культуры і мастацтва 18. VIII—12. IX. 1928 г.

На паўночным кірмашу ў Вільні, што будзе сёлета ад 18 жніўня да 12 верасьня, Беларускае Навуковае Т-ва супольна з Таварыствам Беларускай Школы і Выдавецкім Т-вам ладзіць выстаўку беларускага хатняга прамыслу, беларускае культуры і мастацтва. Аддзел беларускага хатняга прамыслу абыймае па магчымасьці ўвесь промысел Заходняе Беларусі (Віленскае, Навагрудзкае, Палескае і Беластоцкае ваяводзтвы) і дзеля гэтага ўсім беларускім грамадзкім і культурна-асьветным установам трэба далажыць усіх стараньняў, каб беларускі промысел быў прадстаўлены па магчымасьці роўна. Выстаўка мае вялікае значэньне для разьвіцьця, як эканамічных, так і культурных бакоў жыцьця працоўнага беларускага народу. Усім добра ведама, што хатні промысел часта становіць паважную часьціну бюджэту нашага беззямельнага і малазямельнага селяніна. Бяда, аднак, у тым, што промысел гэты ў шмат якіх галінах і мясцох ніколі не паляпшаецца: часта і дасюль выробляюць тыя ці іншыя рэчы тым самым спосабам, якім карысталіся яшчэ нашыя дзяды і прадзеды, а тымчасам калі-б увясьці новыя палепшаныя спосабы ці прылады, дык, затрачваючы той самы час ды значна менш энэргіі, магчыма было-б атрымаць значна больш прадукту вытворчасьці. Пры выробе палепшанымі спосабамі ды ўжываючы новыя больш адпаведныя прылады, часта і якасьць выробляных рэчаў паляпшаецца, а гэтым самым, ёсьць ведама, падыймаецца і іх цана. Адным словам, мы павінны прылажыць усе высілкі да таго, каб промысел наш хатні падняць на адпаведную вышыню, а гэта магчыма толькі тады, калі мы яго ўсебакова пазнаем ды адпаведна з'арганізуем. Выстаўка як раз дасьць нам магчымасьць дакладна пазнаць усе галіны хатняга прамыслу ды паможа навязаць цясьнейшую сувязь паміж паасобнымі куткамі нашае Бацькаўшчыны. Наступным этапам нашых культурна-грамадзкіх і гаспадарчых установаў будзе—парупіцца аб тым, каб адпаведным спосабам з'арганізаваць усіх хатніх прамыслоўцаў, ды памагчы ім у дастаўаньні неабходных матэр'ялаў на выраб, а так-жа наладзіць каапэратыўныя крамы дзеля збыту гатовых рэчаў, каб гэткім спосабам памінуць зусім непажаданых пасрэднікаў, якія яшчэ нажаль дагэтуль, як паразіты, сядзяць на целе беларускага селяніна.

Прыдаючы такім чынам вялізарнае значэньне выстаўцы беларускага хатняга прамыслу,

заклікаем усіх да працы па зьбіраньню экспонатаў (рэчаў хатняга вырабу, якія будуць выстаўлены) на выстаўку.

Між іншым трэба сабраць экспонаты наступных вырабаў:

1) Тканіны: палотны, сукны, ручнікі, пасьцілкі, андаракі, хусткі, абрусы, паясы і т. п.

2) Ганчарныя вырабы: гаршкі, міскі, збаны, гладышы, дзіцячыя забаўкі і г. п.

3) Вырабы з дрэва: колы, вазы, брычкі, сані, абады, калаўроткі, розныя рэчы з чачоткі, бочкі, вёдры, конаўкі, лыжкі і іншае кухоннае судзьдзё, гонты, верацены, дзіцячыя забаўкі і г. п.

4) Вырабы з саломы і лазы: вульлі, лубкі, капялюшы, кашы, палукашкі, сявенкі і г. п.

5) Рукавіцы і панчохі, шапкі, валенкі лямцы і г. п.

6) Рымарскія вырабы: хамуты, аброці, сёдлы і г. п.

7) Гарбарныя вырабы: шкуры рознага сорту, аўчыны і г. п.

8) Цэглы, кахлі, дахоўка і г. п.

Усе рэчы шматлікага хатняга промыслу Беларусі павінны быць на выстаўцы!

Хай гэта будзе пачаткам да палепшаньня і спосабаў і прыладиў вырабу!

З усялякімі пытаньнямі ды інфармацыямі зварочвацца да Камітэту Беларускага Навуковага Таварыства па арганізацыі выстаўкі па адрэсу: Вільня вул. сьв. Ганны 2.

# Анкетны лісток

**аб экспонатах, зьбіраных на Выстаўку Беларускага Хатняга Промыслу пры Паўночным Кірмашы ў Вільні 18 VIII.—12. IX. 1928 г.**

1. Экспонат . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(драбязны назоў рэчаў, якія выстаўляюцца)
2. З якога матар'ялу . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3. Хто рабіў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(імя прозьвішча) (век)
4. Кошт матар'ялу (залежна ад мясцовасьці). . . . . . . . . . . . .
5. Назоў мяйсцовасьці. { вёска . . . . . / павет . . . . . / воласьць . . . .
6.*) Час, патрачаны на сам выраб прадмету з (сырога) матар'ялу . . . .
7. Адрэс нажытага (купленага, пазычанага) экспонату . . . . . . .
8*) Прадажная цана на месцы . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
9*) Колькі людзёў на месцы і калі займаецца гэтай работай? . . . . . .
10*) Колькі дзён у годзе займаюцца гэтымі вырабамі? . . . . . . . . .
11. Дзе і як дастаюць матар'ял для вырабу? . . . . . . . . . . .
12. Дзе і каму прадаюць? . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
13. Што патрэбна для палепшаньня промыслу? . . . . . . . . . . . .
14. Спосаб вырабу экспонатаў (прыкл. тканіны ў колькі нітаў—4, 6, 8 і гэт. пад.).

Пытаньні, азначаныя зоркай, абвязчацца ня будуць, а патрэбны толькі дзеля ведама Камітэту па арганізацыі выстаўкі.

# Беларускі Аддзел на Паўночным Кірмашу ў Вільні.

На чале арганізацыйнага Камітэту беларускага аддзелу на Паўночнай выстаўцы, як нас інфармуюць, стаяць гр. гр. Р. Астроўскі і К. Крук. Район для Беларускага аддзелу кірмашным камітэтам вызначаны добры—ад галоўнай брамы адразу ўправа, проці галоўнага павільёну і прылягае да дому, дзе месьціцца Гал. Управа Т-ва Бел. Школы і яе Народны Дом.

Было-бы пажаданым, каб арганізацыйны Камітэт, узяўшы на сябе рэпрэзэнтацыю Беларусаў, падчас зьезду на кірмаш і выстаўкі зарганізаваў-бы і рэпрэзэнтацыю беларускага мастацтва, наладзіўшы добры спэктакль і беларускі хор.

Няма сумліву, што ўсе арганізацыі пойдуць на сустрэчу гэтаму і кожная дапаможа, чым зможа. З маючыхся у арганізацыях тэатральных трупаў можна выбраць найлепшых артыстаў, рэквізыт і касьцюмы, напэўна пазычыць Інстытут Гаспадаркі і Культуры, а дэкарацыю — Віленская Гімназія. Рэжысуру можна далучыць М. Счэнсновічу, ці калі яго ня будзе, п. Міхалевічу, ці Д. Курылю

Актуальнасьць беларускага пытаньня у нашым Краі патрабуе і гэтае рэпрезэнтацыі, а зацікаўлянасьць беларускім мастацтвам гварантуе і з матэр'яльнага боку. Даход ахвяраваць на стыпэндыі беларускаму студэнству ці вучням Віленскае гімназіі, ці беспасрэдня на беларускае мастацтва, а ўласьня на Дом Беларускае Культуры.

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Адказ Польшчы на літоўскую ноту.

У адказ на літоўскую ноту польскі урад выслаў да Лігі Народаў ноту, у якой указвае на поўную безпадстаўнасьць літоўскага страху перад польскімі манэўрамі па Віленшчыне і з свайго боку абвінавачвае Літоўскі Урад, які адхіліў польскую прапазыку падпісаць дагавор аб ненападу і ў перагаворах выстаўляе варункі, на якія Польшча ня можа згадзіцца.

### Нешчасьлівы выпадак.

Лёт польскіх авіятараў з Варшавы да Багдаду у Мэсапатаміі закончыўся трагічна. Праляцеўшы шчасьліва ўсю паветраную прастрань у некалькі тысячаў кілямэтраў, калі лётнікі спушчаліся ў Багдадзе на зямлю, апарат перакуліўся і пілёт паручык Шалас застаў забіты.

## ЗАГРАНІЦАЮ.

### Літоўская нота Лізе Народаў.

Літоўскі Урад выслаў да Лігі Народаў ноту, у якой указвае на тую небясьпеку міру, якую быццам прэдстаўляюць манэўры польскай арміі на літоўскай граніцы, якія адбудуцца ў жніўні.

### Новы Урад у Юга-Славіі.

Пасьля доўгага крызысу ўраду, выкліканага крывавымі падзеямі ў парлямэнце (скупшчына), 27 ліпня сформаваўся новы ўрад Коросэча, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі тых самых партыяў, якія падтрымлівалі і папярэдні ўрад Вукевіча. Міністрам заграгічных спраў застаўся Марынкевіч.

### Пріезд гэн. Нобіле да Італіі.

Італьянскі гэн. Нобіле пасьля няўдалага свайго палёту на паўночны полюс, нарабіўшага шмат клопату Швэцыі і Радавай Расеі, прыехаў 31—VII цягнікам да Італіі.

### Узрост папулярнасьці Л. Джорджа.

Фракцыя англійскай партыі лібэралаў аднагалосна выбрала быўшага прэм'ера Л. Джорджа сваім лідэрам.

### Амэрыканска-Кітайскі дагавор.

З Пэкіну паведамляюць, што у мінуўшую сераду быццам быў падпісаны з новым кітайскім урадам амэрыканска-кітайскі дагавор, які выклікаў незадаволеннасьць з боку іншых вялікіх дзяржаваў.

### Замардаваньне Прэзыдэнта Мэксікі.

17 ліпня у часе банкету рэстарацыі быў замардаваны некалькімі выстрэламі з рэвальвэру Прэзыдэнт Мэксіканскае рэспублікі Абрэгон. Забойца арыштаваны.

# На Куцьцю.

АБРАЗОК У 1 АКЦЕ.

Інсцэніроўка з верша Я. Купалы

**Мік. Счэнсновіча.**

Асобы:

Гусьляр.
Князь.
Княжна.
1-й ганец.
2-й ганец.
3-й ганец.
Слугі, госьці, музыкі, дружына.

(Паволі ідзе заслона. Цёмна. Лес. На авансцэне на пню сядзіць гусьляр з гусьлямі. Яго асьвятляе ціхае, ледзь-ледзь прабіваючае сьвятло, якое кідае слабы сьвет на дрэвы, груды каменьня і гальля. Выступаюць слабыя контуры разбуранага пагарэлага замку. Ціха. Гусьляр, сівы, як лунь, з доўгай барадой, сядзіць некі час са схілянай галавой, пасьля, зварухнуўшыся, падымае галаву, адчыняе вочы, аглядаецца кругом, нібы ачхнуўшыся ад сну і, кратаючы памалу струны гусьляў, пачынае гаварыць.)

Гусьляр:

На небе зоры ўжо мігцяць,
На полі срыбны сьнег іскрыцца;
На бел-сьвет дзівы выпраўляць
Пляцецца ночка-чараўніца.
Глуш абнялася с цішыной
І спавівае ўсё у чары,
Паўзуць і сеюць шорах свой
Старым парадкам цені-мары.
Вылазе с цемры бледны звод,
Глядзіць сьлюнём на долы, горы
І тут і там пускае ў ход
Свае нямыя загаворы.
І тут і тамка свой прыгон
Распасьцірае царства ночы;
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы. (Пауза).
Заныла ўсё, замёрла ўсё,—
Ня сьпіць адвечная замчышча:

# Тутэйшая хроніка.

— **Паўночны кірмаш у Вільні.** Паміж 18 жніўня і 12 верасьня 1928 г. адбудзецца выстаўка Беларускага Хатняга Промыслу, культуры і мастацтва, зарганізаваная Бел. Навуковым Т-вам ў суполцы з Т-вам Бел. Школы і Выдавецкім Т-ствам.

Выстаўка гэтая мае вялілае культурна-эканамічнае значэньне, і дзеля гэтага Навуковае Таварыства зварочваецца да ўсіх грамадзкіх арганізацыяў і прыватных асобаў, якія маюць адпаведныя экспонаты, каб ўзялі удзел у выстаўцы.

За уселякімі пытаньнямі і інфармацыямі зварочвацца да камітэту Бел. Навук. Т-ва па арганізацыі беларускага аддзелу па адрэсу: Вільня, вул. сьв. Ганны № 2.

— **Да ведама прыяжджаючых на Паўночную выстаўку.** Адміністрацыя „Грамадзяніна“ падае да ведама тых сяброў Акружнае Рады „Прасьветы,“ якія прыедуць на Паўночную выстаўку, што могуць затрымацца на начлег у памешканьні рэдакцыі „Грамадзяніна“: Вільня, Завальная № 6-5

— **З Т-ва „Беларускае Хаткі ў Вільні.“** Рэвізійная камісія сваю працу скончыла і ўвесь матэр'ял з прапазыцыяй аб скліканьні агульнага сходу сяброў „Хаткі“ перадала ў Часовы Урад Хаткі. А дзеля таго, што рэвізія датыкалася галоўным чынам пярыёду гаспадараваньня А. Паўлюкевіча, дык каб спыніць магчымыя з ягонага боку і ягоных прыхільнікаў закіды, Рэвізыйная Камісія ў паразуменьні з Часов. Урадам пастанавіла увесь матэр'ял і пратаколы Рэвізійнае Камісіі да агульнага сходу даць на перагляд і на высьвятленьне патрэбных пунктаў А. Паўлюкевічу і пасьля таго толькі будзе надрукаваны ў „Грамадзяніне“, каб даць магчымасьць сябрам агульнага сходу падрабязна разабрацца ўсправаздачы Рэвізыйнае Камісіі і ацаніць істнаваўшы парадак гаспадараваньня А. Паўлюкевіча.

— **Беларускі Нац. Камітэт № 2.** 14 ліпня адбыліся перавыбары прэзыдыуму Беларускага Нац. К-ту № 2. Старшынёю паноўна застаў выбраны сэнатар Багдановіз, віцэ-старшынёю пасол Ярэміч і сэкрэтаром Пазьняк.

На 19 ліпня быў скліканы агульны сход абноўленага Бел. Нац. К-ту, які пасьля прывітаньня звольненага з турмы кс. Гадлеўскага і выслуханьні справаздачы старшыні Пасольскага Клюбу пасла Ярэміча аб дзейнасьці Пасольскага Клюбу, выняс між іншым наступныя рэзалюцыі:

Распачаць перагаворы з мэтаю аб'яднаньня з тымі беларускімі групамі, якія яшчэ не ўваходзяць у склад Нац. К-ту.

Бел. Нац. К-т уважае, што палітычная грызьня і асабістая лаянка ў беларускай прэсе вельмі шкодна для нацыянальнага, культурнага і палітычнага жыцьця Беларускага Народу і заклікае беларускую прэсу ўсіх палічыных кірункаў да таго, каб змагаючыся за сваю ідэалёгію, рабіла гэта ў спосаб парлямэнтарны, высьцярагаючыся палітычнай і партыйнай грызьні, а таксама і асабістай лаянкі, прынёсшай шмат шкоды Беларускаму Народу.

Вельмі прыемна адцяніць, што нарэшце самі беларусы пачынаюць уцямліваць сабе

---

(У гэты час гасьне сьвятло, якое асьвятляла гусьляра і сьцены разбуранага замку, якія перагаражалі сцэну на першаму пляну, разступаюцца.)

Там пачынаецца жыцьцё
У вагнёх старога папялішча.

(Ўспыхівае моцнае зеленаватае сьвятло з 3 і 4 рампы, якое адразу асьвятляе старадаўні пакой. Пасярод пакоя стол, накрыты дыванамі і лавы. На стале настаўлена ўсякіх каўшоў, чарак і закусак. Каля стала варушыцца дружына ў старадаўніх убраньнях. Шырокі пасад на дваіх. Разам з гэтым моцным сьвятлом, якое ня асьвятляе гусьляра, ўспыхівае зноў тое сьвятло, якое было спачатку.)

Іскрыстым, блёскатным сьвятлом
Заліты княжскія сьвятліцы,
Дружына вольная кругом
Сталоў дубовых варушыцца.
Золататканы абрусы
З сталоў зьвісаюць дыванамі,
На абрусох чысьцей расы
Віно красуецца каўшамі.
Духі мінуўшчыны куцьцю
На старасьвецкі лад спраўляюць.
Даўно бываламу жыцьцю
Дары належныя складаюць.

(Паважна выходзе князь у багатай старадаўней вопратцы і з каронай на галаве, трымаючы за руку княжну. За імі слугі. Ціха падходзяць к пасаду і ўсходзяць на прыступак. Слугі становяцца шарэнгамі з двух бакоў пасада. Усе маюць шаблі, сякеры, лукі са стрэламі і г. д. усе ходзяць так, каб ня было чуваць крокаў.

На беласьнежны на пасад
Усходзе князь, усходзе княжна;
За імі слуг пачэсны рад
Стаіць задумліва, суважна.
Агні брыльянтаў, як зарніц,
Як бліск маланак развуглёны.
Зьвярнулі вочы ўсе ў іх бок,
Прымоўклі гоманы дружыны;
Усіх званных зблізуі здалёк
Саколім вокам князь акінуў,

(Двое слуг, адзін з аднаго боку, другі з

тую шкоду, якую прычыняе Беларускай справе ўзаемная грызня і лаянка палітычных павадыроў. Праўда пасьля выбараў да Сойму гэтая лаянка крыху аслабла. Але трудна спадзявацца, каб яна зусім спынілася, бо ў гэтым некаторыя бачуць ня сьродак сваей дзеяльнасьці, але мэту. Здаецца „лягчэў вярблюду пралезьці праз вушка іголкі", чым беларусам спыніць узаемную грызьню, лаянку і абліваньне адзін другога памыямі.

**— Паседжаньне Прэзыдыўму Бел. Хр. Д.** 16 ліпня адбылося паседжаньне Прэзыдыуму Бел. Хр. Дэмакр., на якім пасьля прывітаньня кс. Гадлеўскага разглядаліся справы палітычныя і арганізацыйныя, зарганізавалася рэдакцыйная калегія „Бел. Крыніцы", у склад якой увайшлі: рэдактар Пазьняк, паслы Стэповіч, Каруза і гр Шутовіч. Затым быў выпрацаваны арганізацыйны плян Бел. Хр. Дэм. як на правінцыі, гэтак і ў Вільні.

**— Старшыня Віленскае Акружное Рады „Прасьветы" п. Т. Вернікоўскі** 31 VII. выехаў на правінцыю на рэвізію аддзелаў „Прасьветы" і адначасова з мэтай азнаямленьня сяброў „Прасьветы" з надходзячым Паўночным кірмашом у Вільні і з заклікам усіх сяброў „Прасьветы" да прыняцьця ўдзелу у выстаўцы ў Беларускім адзеле.

**— Старшыня Беларускага Камітэту па справам самаўрадаў п. Я. Ярош** перанёс першага жніўня Камітэт з Гарбарскай вул. 5-2 да памешканьня Рэдакцыяў „Грамадзяніна" і „Беларускага Раднага" на вул. Завальную № 6-5.

**— Дырэктар Віленскае Беларускае Гімназіі.** На наступны вучэбны 1928-1929 год застаўся выбраным ізноў гр. Паўловіч.

**Павялічэньне шэрагу беларускай інтэлегэнцыі.** У чэрвені здала апошні дзяржаўны экзамен на агранамічным аддзелі Чэскай Палітэхнікі беларуска Альзьбета Мілоўская з Дзьвінска. Адначасова скончылі агранамічны аддзел беларусы М. Рагуля і Р. Тананка з Наваградчыны, лясны аддзел Гіляр Дварчанін, брат пасла Дварчаніна. Лекарскі аддзел Праскага Унівэрсытэту скончылі Басэвіч і Лембовіч з Случчыны. У заходнюю Беларусь вернецца толькі адзін Дварчанін.

Гэтакім чынам рады беларускай інтэлігэнцыі гусьцеюць. Шкада толькі, што ня усе варочаюцца на сваю Бацькаўшчыну. Вось што значыць шукаць вышэйшай навукі дзесь на чужыне.

**— Звальненьне з вастрогу Ст. Грыба і М. Ярмака.** У сярэдзіне ліпня былі звольняны з вастрогу ў Вялейцы пад каўцыю Ст. Грыб і М. Ярмак.

**— Спэктакль.** 25 ліпня у дзень Петра і Паўла у Вялейцы адбыўся спэктакль, наладжаны аддзелам Акружной Рады „Прасьветы" пад кіраўніцтвам З. Курыля. Былі адыграны „Страхі Жыцьця" Ф. Аляхновіча і „Боты." Усе артысты добра выканалі свае ролі Пасьля спэктакля адбыліся скокі, якія працягнуліся да 3 гадзіны раніцы. Публіка разышлася вельмі задаволеная спэктаклем і вечарам.

**— Беларускі Радны".** На будучым тыдні выйдзе чарговы нумар „Беларускага Раднага".

**— „Саха."** Пасьля часовага спыненьня зноў выйшаў з друку першы беларускі месячнік сельскае гаспадаркі „Саха" № 4-5 (14-15) пад рэдакцыяй і выдавецтвам А. Уласава пры галоўным супрацоўніцтве грам. У Павалковіча.

Рэдакцыя „Сахі" заклікая чытачоў і падпісчыкаў, як роўным чынам усіх прыхіль-

---

другога, падаюць каўшы з віном князю і княжне. Тыя выпіваюць і аддаюць каўшы назад.)

Бярэ коўш солодка віна,
П'е за дружыну маладую,
І княжна с князем п'е да дна;
Князь гутарку павёў такую.

Князь.

Адзін, адзін раз толькі ў год
Зьбірацца можам з ласкі Рока,
Каб год іржавы карагод
Зганяць з мінуўшчыны далёкай.
Нас не кранулі косы зьмен:
Царым мы ў дум жывых гэйнале,
Хоць на падмурах гэтых сьцен
Другія наш пасад занялі.
Багі другія верх бяруць,
Суды вядуць над нашым краем,
Сьвяцільні-ж нашы не замруць
Што ў сэрцах вольных рассвятляем.
Прашу паклікаці ганцоў
І мейсца даці ім па чэсьці:
Ад нашых стоптаных капцоў
Якія нам прыносяць весьці?

Гусьляр.

Закончыў князь, махнуў рукой;
(уваходзяць 1, 2 і 3 ганец. Першы апрануты як падарожны; з кіем і торбай; у руках сьветач. Другі ў кальчузе з лукам і стрэламі. Трэці у вопратцы селяніна з белай барадой у лапцёх і з гусьлямі.)

Уходзяць тры ганцы ў сьвятліцу,
Ідуць суважнаю ступой
І князю, й княжне пакланіцца. —
А першы гэткі сьветлы быў,
Як небам сланныя прамені:
Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў
Усе усюдах зводзіў цені.
А быў другі і з ног і з рук,
Як гром з жывымі пярунамі:
Ў руцэ меў стрэл жалезных пук,
І лук стальны меў за плячамі.
А трэці быў і раб, і цар,
І слаб, і дуж ва ўсякім дзеле,
Як вечнасьць молад быў і стар;
Меў гусьлі — на грудзёх віселі.
І першы князю гэткі сказ
І княжне скажа міласьцівай:

нікаў адраджэньня сельскае гаспадаркі у нашай старанцы да падтрыманьня падпіскаю, каапатаваньнем новых падпішчыкаў, парадамі і. г. д.

Зьмест часопісі: Недахопы нашае вясковае гаспадаркі. Машынізацыя вясковае гаспадаркі. Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожжа. Што можа нам даць сэлекцыя расьлін. Выраб поля перад севам жыта. Гадоўля насеньня лугавых траў. На што трэба зьвярнуць увагу пры жывёлагадоўлі. Як ратаваць уздутую карову. Дамавая аптэчка земляроба. Прышчэпка дзічкоў. Грамаатводы на вёсцы. Гаспадарчыя парады. Парады для гаспадынь. Пошта.

Зьмест, як бачым, вельмі цікавы для вясковага гаспадара, а форма кніжкі ў 32 старонкі надаецца для папаўненьня бібліятэчак. З свайго боку прапануем усім нашым чытачом і гурткам „Прасьветы“ гэтую вельмі карысную для селян часопісь, а рэдакцыі „Сахі“ жадаем матэр'яльнага пасьпеху.

Кніжку можна набыць у ва ўсіх беларускіх кнігарнях. Адрэс рэдакцыі і аміністрацыі: Вільня, вул. сьв. Ганны 2-3.

— **„Расквіт культурна-нацыянальнага жыцьця Усходняе Беларусі.“** Рэдакцыяй атрымана кароткі нарыс у ўкраінскай мове „Расквіт культурна-нацыянальнага жыцьця Усходняй Беларусі“ аўтара І. Сьвенціцкага, пасьвечаны крытыцы творчасьці беларускіх песьняроў, галоўным чынам Я. Купалы і Я. Коласа. Выданьне старанна выпрацавана і мае вельмі прыгожы выгляд. Можна набыць у друкарні Выдавецкае супалкі „Діло“, Львів, Рынак 10.

# Карэспандэнцыі.

## Наш галоўны вораг.

(в. Голдава, Лідзкага пав).

У ва ўсіх кутох нашае Бацькаўшчыны людзі жывуць ўсялякім жыцьцём. Бываюць такія мейсцы, дзе людзі цікавяцтца жыцьцём, палітыкай, культурай, асьветай і г. д., а бываюць такія мейсцы, дзе народ зусім не цікавіцца нічым і ня хоча ўнікаць у справы, якімі пры цяперашнім часе павінен кожны грамадзянін добра памятаць, бо ніхто нам нічога не паможа, калі мы самі аб сабе ня будзем клапаціцца.

І вось мяне стала цікавіць жыцьцё аднаго гэтакага кутка. У в. Голдава, Лідскага пав. месьціцца лясная фірма Айзеншдадта, Льва і Шэрэшэўскага. Працаўнікоў працуе каля 500 чалавек, заработак сярэдні выплачывае фірма добра, але запрацаваныя грошы крывавым мазалём ня ўсім ідуць ў карысьць, і іх дужа ідзе на галоўнага нашага ворага „гарэлку“, каторай у вёсцы Голдава досыць. Я, як работнік, прыехаў ў гэту вёску 4 тыдні таму назад, каб зарабляць сабе які—небудзь грош, і стаў цікавіцца, як цячэ жыцьцё сялян і работнікаў. У сьвяточныя дні я пачаў гутарыць з сялянамі, як старэйшымі, гэтак і маладымі, ці чытаюць Беларускія газэты, ці маюць яны якую-небудзь беларускую культурна-асьветную установу і г. д.

Старыя кажуць, што-дзе нам думаць аб газэтах, калі патрэбна думаць аб кавалку хлеба,

---

1 ганец.

Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яшчэ ўсе жывы.
А толькі ўсё той самый лад:
З вачэй нязьняты йшчэ павязкі,
Ці йдуць уперад ці назад,
Відны сьляды цямрычнай ласкі.
А як ішоў між іх з сьвятлом,
Яны пачулі, ах, пачулі:
Сьляпым замораныя сном,
Худыя рукі ў высь цягнулі.
За мною ўсьцяж, і тут і там
Іх вусны бледныя шапталі:
Аддайце сонца наша нам!
Нашто схавалі — расхапалі?

Гусьляр.

Другі за першым князю сказ
І княжне скажа міласьцівай:

2 ганец.

Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яны ўсе жывы.
А топчуць толькі ўсё той сьлед,
Валочаць ёрмы за сабою;
Ці ўбачыць корч, ці ўбачыць цьвет,
Аднэю жаляцца сьлязою
А як чапнуў стралой аб лук,
Яны скрануліся ў прасоньні,
І столькі столькі крэпкіх рук
К маёй націснулася броні.
За мною ўсьцяж, і тут, і там
Іх вусны бледныя шэпталі:
Аддайце славу нашу нам!
На што схавалі — расхваталі?

Гусьляр.

І трэці князю гэткі сказ
І княжне скажа міласьцівай:

3 ганец.

Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў што яны ўсе жывы.
А толькі торг усе ідзе,
Над іх душою патаптанай;
Яны, як цені, у грамадзе
Маўчаць і йдуць на мір паганы.
А як я ўдарыў па струне,
Замятушыліся як пшчолы,
І на гарэ і нізіне.

аб тым, каб заплаціць падаткі і г. д., а моладзь зусім ня цікавіцца культурай і ня хоча аб нічым гутарыць, а сабяруцца дзе на музыку, пагуляюць скокамі ды і разайдуцца па хатах, як-бы так і добра.

Браты сяляне! Трэба думаць аб хлебе, трэба плаціць падаткі, але трэба-ж ўнікаць і ў культурна-асьветную працу, а галоўным чынам маладым, бо калі мы ня будзем пашыраць сваей роднай асьветы, то мы ня будзем сынамі сваей Бацькаўшчыны і ня можам называць сябе беларусамі. Трэба удзяляць і нам пару грошаў на газэту. А што датычыць рабочых, то і яны прыхільны да гарэлкі. Быў такі выпадак: на Пятра і Паўла было вялікае набажэнства ў вясковай царкве, прыйшоў адзін крэсны ход з в. Дікутак з абразамі, другі з в. Баброў так сама з абразамі. Адным словам сабралася шмат народу, каб памаліцца. А на другім канцы вёскі работнікі, напіўшыся гарэлкі, пачалі рабіць гранду і пад вечар дайшло да таго, што прышлося запатрэбаваць паліцыю.

Дык вот браты, рабочыя! Кіньце піць гэту гарчыню, а ляпей той грош аддай на газэту, бо калі нап'ешся гарэлкі, то наробіш кепска сабе і людзям, а як прачытаеш газэту, то будзеш ведаць, што робіцца у нас і за граніцай, бо каб пусьціць марна запрацаваны потам і кроўю грош, то трэба добра падумаць, а тады пусьціць.

**Рабочы.**

## Труп заварушыўся.

(З Наваградчыны)

Пасьля няўдалых спробаў Паўлюкевіча пралезьці ў Сойм на Наваградчыне здавалася, што ўжо нарэшце наступіць поўны спакой з усялякімі дэмагогічнымі выступленьнямі, якія заўсёды ён уводзіў як паміж радных, гэтак і паміж вясковым сялянствам. А так сама думалася, што поўны развал яго нага цэнтру і адначасна сьмерць Б. Н. Р. паложыць канец і на павадыра яе. На Наваградчыне баялі, што, быццам, Паўлюкевіч ужо ёсьць палітычным трупам, але як даведаліся ад яго бліжэйшых сябраў, дык труп гэты хоча уваскраснуць (хаця ў гэта трудна верыць) і уваскрасіць нябошчыцу Раду.

У сувязі з гэтым на Наваградчыне вядзецца агітацыя проці сучаснага ураду „Беларускай Хаткі", а пераважна проці Старшыні апошняй, якім зьяўляецца рэдактар Беларускай газэты „Грамадзянін" п. Т. Вернікоўскі. Агітацыя вядзецца пераважна сярод сябраў гурткоў Т-ва „Прсьвета." Згодна з гэтай агітацыяй старшыні з сваімі сябрамі павіны зрабіць пастанову і злажыць заяву аб выражэньні недаверра п. Т. Вернікоўскаму, матывуючы тым, што апошні нічога супольнага ня меў і ня мае з беларускім рухам. Гэткім чынам удасца адабраць і перадаць Паўлюкевічу канцесії Клюбу. „Вось тады дык пажывём! Грошы будзем мець і ўсё што хочаш," — кажуць яны. Праўда паночкі, грошы будзеця мець, але хто ведае „ці вып'я сучка гарнец мёду". Дзе-ж тагды будзе ваш беларускі рух? Вы значыць ня думаіце аб палепшаньні долі Беларусаў наагул, але думаіце аб палепшаньні сваіх кішэняў і горла?

А што вы напішаце, быццам п. Вернікоўскі нічога супольнага з беларускім рухам ня меў, дык гэтым скампрамітуеце толькі сябе, бо Вернікоўскі ў руху ведамы з 1905 г.

Цяпер запытаюся вас, пав. сябры Паўлюкевіча: што-ж супольнага меў Паўлюкевіч

---

Мне подавалі голас кволы.
За мною ўсьцяж, і тут і там
Іх вусны бледныя шапталі:
Аддайце песьню пашу нам!
Нашто схавалі — расхапалі?

Гусьляр.

Сказаўшы так, маўчаць ганцы,
Маўчыць і князь крыху часіны,
І дасьць адказ такі ў канцы
Ганцом на іхнія навіны:

Князь.

Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
Раз хочуць сонца, славы, песьні;
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам напрадвесьні.
Сваёй забранай старане
Скаванай мучаніцы — княжне;
Ўзьнясуць пасад на кургане
На панаваньне недасяжне.
На дзеле — кожны йшчэ слугой,
У думках — вольныя ўжо людзі;
Над сэрцам іх, над іх душой
Наш дух вітаці вечна будзе.

Вы, другі верныя, ганцы,
Як летась, сёлета, на лета
Ўсе на гранічныя канцы
Адходзьце зноў з маім прыветам
Гусьлямі, лукам і сьвятлом
Будзіце, клічце і сьвяціце,
І так спануйце іхнім сном,
Каб сон іх шчэз і ўсталі жыці.
А покуль поўнач ня прышла,
Вясьці бяседу будзем далей;
Засядзьце ўсе кругом стала,
Хай зазьвініць віно ў крыштале.
А чарку першую ўзьнясём
За цень мінуўшчыны ў сеці
Другой к цяпершчыне прап'ём,
Праславім будучыну трэцяй.

Гусьляр.

Садзіцца княжна, князь, кругом
Садзіцца вольная дружына;

(Усе садзяцца, наліваюць, пьюць, гутараць. Іграе музыка.)

Шуміць бяседа за сталом,
Плыве часіна за часінай.

з беларускім рухам? Я палажыўшы руку на сэрцэ, скажу, што сам Паўлюкевіч нічога абсалютна ня мае супольнага з беларускім рухам, і ўся Наваградчына рада, што збавіліся нарэшце ад яго, і цяпер, калі-б толькі зьявіўся, дык мётламі яго пагоняць.

Хто быў на зьездзе у 1926 г. той бачыў, як выбіраўся Паўлюкевіч на Старшыню Рады? Я скажу адкрыта, што Вы ужо труп і Вашая песьня сьпета.

*Навагрaдчанін.*

## Калі-ж стання спакой?

Ні адзін нумар нашай паважанай газэты ня пройдзя, каб ня было надрукавана аб якіх та там Якімовічах, Станкевічанках і інш. Ці-ж наша газэта выхадзіць дзеля таго, каб у ей друкаваць усялякія непатрэбныя рэчы?

Не, наша газэта выходзіць для таго, каб у ей друкаваць аб нашых інтарэсах, інтарэсах нашай роднай беларускай культуры, а не аб якой небудзь партыйнай грызьні. Такіх асобаў, як Якімовіч і Станкевічанка, народ ніколі ня бачыў і зусім ня ведае, хто яны такія ёсьць, хаця яны сябе лічуць беларускімі дзеячамі. Лепшы доказ таго, што ані Якімовіча, ані Станкевічанкі ніхто ня хоча знаць, паказала вялікая зборка дэлегатаў гурткоў „Прасьветы“ 24 траўня г.г. у Маладэчні, на каторай было сабраўшыся больш як 40 прэдстаўнікоў з усіх куткоў Маладэчанскага і Вялейскага паветаў, каторыя выразілі сваё недаверра гэтым асобам. Пасьля гэтага ім трэба было-бы зашыцца дзенебудзь і сядзець ціханька, не паказваючы галавы. А яны ўсё варушацца і шкодзяць нармальнай працы.

Мы патрабуем, каб ані Якімовіч, ані Станкевічанка ня ўмешаваліся у нашу культурную працу, бо мы іх зусім ня ведаем і знаць ня хочам!

**Молат.**

## З нашага жыцьця.

(Юрацішкі — пав. Валожынскі).

У гэтым годзе цяжка жывецца. Сенакосы павырасьлі слаба, на палову, жыта павыпрэвала. Да новага хлеба дачакаць надта трудна, зарабіць німа скуль, грошы патрэбны на хлеб, на падаткі... І вось раптоўна адчынілася возка каменьня на ст. чыгункі. Усе, у каго няма хлеба ды ня маюць магчымасьці заплаціць падаткі, кінуліся за возку каменьня па 5 злотых за мэтр. Жыхары не шкадуюць нават пасеваў — сабіраюць каменьня па пасеўным палям, абы як зарабіць на хлеб, ды на падаткі.

Як толькі павезьлі з усіх бакоў каменьня, дык жыды адразу уцямілі, што ім гэта ідзе на руку. Спачатку заявілі, што па суботам прыймаць ня будуць, а потым як-бы прыймаюць неахвотна ды на вагу, а у канцы заявілі, што каменьня патанелі і заместа 5 зл. плацяць толькі 4 злоты за мэтр, кажучы, што будуць плаціць і па тры злоты, усё роўна прывозіць будзіця.

А што зрабіць? Голад ня цётка, а секвэстратар госьць ня прыемны, дык хоць колькі, хоць крыху — але-ж трэба зарабіць на хлеб ды на падаткі. Кожны ведае, што хаця каменьня прымаюцца на вагу, але-ж яе ніхто не разумее і жыды колькі хочуць, толькі і пішуць у талонах. Грошы выплачваюць адзін раз у тыдзень, а калі прыходзе дзень разрахунку, дык мала хто грошы атрымлівае, бо за талоны ў месных крамах даюць ўсе прадукты, крамнікі хлеб дастаўляюць з Ліды і цана на хлеб дарожэй, як у месьце.

**А. С.**

---

І разгараецца ясьней
Паходня радасьці забытай,
І сьветазарнасьцяй сваей
Вясёлкі сее самавіты.
Яшчэ нацягваецца лук,
Цэль рассякаюць агнястрэлы,
Дрыжыць паўціна і павук,
Дрыжыць прублудак ачарнелы.
Рахочуць гусьлі звон-у-звон,
На бел-сьвет розгалас нясецца
Як бел-сьвет, коціцца разгон
І ў думцы казкай раздаецца.
Плыве шумліва, як рака,
Бяседа вольная такая,
А ўжо нявідзіма рука
На небе поўнач адзначае
Залопаў крылямі пятух, —

(Ціхі крык пеўня, зразу ўсе гукі абрываюцца і ўсе заміраюць, у якіх іх застаў гэты крык. Поўная цішына; ніякага руху.)

І ціхне, ціхне усё ў замчышчы;
Замоўк разгул, агонь патух,

(Гасьне ўсё сьвятло, поўная цемра

Сьцэны разбуранага замку зноў заступаюць на старое мейсца і зноў ледзь-ледзь прабіваючаеся сьятло падае на гусьляра.

Ціхі далёкі вый воўка. Гусьляр зноў ціха кратае струны гусьляў.)

На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў,
Пуціну заяц перамерыў...
А быў тут хто, або ня быў, —
І так і гэтак мала веры.
І так і гэтак свой прыгон
Распасьцірае царства ночы:
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

(Бярэ яшчэ некалькі ціхіх акордаў, абрывае, азіраецца супакойна кругом, заплюшчывае вочы, ціха апушчае галаву і застывае ў першай сваей позе, якая была спачатку. Цішына. Памалу апушчаецца заслона).

Канец.

## Важная справа.

Апошнімі часамі праз некаторыя паветы З Беларусі праняслыіся страшэнныя буры з градам і пярунамі. Гэта ня першыя ўжо ў нас буры і магчыма не апошнія. Шмат пасеваў сялянскіх зьнішчана да шчэнду, шмат будынкаў згарэла ад пяруноў, ёсьць нат ахвяры ў людзёх.

Аднак-жа сяляне нейк праз пальцы глядзяць на ўсё гэта. Усе катастрофы прыпісваюць нейкай кары Божай за няведамыя грахі, і цярпліва чакаюць міласьці з неба. Ёсьць пекная расейская прыказка „На Бога надзейся и сам не плошай". Там, дзе запраўды трудна бядзе перашкодзіць — ну, нічога ня зробіш. Процiў нішчэньня пасеваў бураю і градам парадзіць што колечы трудна. Тут жадная сіла людская нічога не паможа. Іншая рэч с пярунамі. Я не маю замеру гаварыць тут аб грамаатводах, якія ў значнай меры зьменшылі-б лік пажараў ад пяруноў. Пажары-ж бываюць і ня толькі выключна ад пяруноў, а ведама ўсякаму, як страшным зьяўляецца пажар у нашай беларускай вёсцы, дзе усе будынкі дзераўляныя, пакрытыя саломай, успыхаваюць ад малае іскаркі. Нам ведама з газэтных весттк аб апошніх пажарах ад пяруноў. Ударыць пярун ў які колечы адзін будынак, ад яго загараецца другі, і трэці, і пажар не спынецца аж да якое колечы перашкоды, зьнішчыўшы дзесяткаў два-тры будынкаў, а то і цэлую вёску.

Вольна гуляець агонь па страхох сялянскіх хат, а бедны сялянін глядзіць адзічэлымі вачыма, як вылятаець у дым яго праца, а яму і яго сямьі пагражае галодная і халодная сьмерць.

Маю замер гаварыць тут аб пажарных таварыствах, якія на вёсцы разьвіты вельмі слаба. У большасці выпадкаў гэтыя таварыствы істнуюць ад недаўна толькі у местах і мястэчках, дзе у іх увайшлі выключна жыды. А ці-ж не ведама усім і кожнаму, што найменей здольныя да ахвярнасьці гэта якраз жыды, і што ў часе пажараў найболей і патрабуецца ўласьне ахвярнасьці.

Вось-жа, сяляне павінны зразумець ўсё гэта і ўсю увагу зьвярнуць на арганізацыю пажарных таварыств, тым болей, што ўрад ідзець на сустрэчу сялянам у гэтым выпадку, і там, дзе гэткія т-вы істнуюць, даець дапамогу ў форме пажарных машынаў і інструмэнтаў.

Дык ня сьпеце, браты!

**Іскра.**

## Дзе нашыя паслы?

(Нясьвіскі павет.)

Адным з самых нешчасьлівых паветаў у Польшчы ёсьць хіба павет Нясьвіскі. Ні аднаго з вас, паважаныя чытачы, зацікавіць: — Чаму? А вось чаму. З жалем ў сэрцы змушаны сказаць, што замест таго, каб асьведамляць сялян у сучасны мамэнт, ў нас наадварот. Віна тут тых людзей, якія бліжэй стаяць да ураду, як напр. п. паслы. Хаця праўда паслы з „В.В.," мы гэта бачым, вядуць працу на Віленшчыне, а на Наваградчыне толькі ў паветах Баранавіцкім і Навагрудзкім. А можа думаеце, што Нясьвіскі павет ня мае прадстаўнікоў ў Сойме? Дык не! Ёсьць п. Макрэцкі Язэп, але нешта яго ня чуваць — часам зьявіцца да Клецка ці да Нясьвіжа, спаткаецца з сваімі знаёмымі, пагаворыць і на гэтым канец. Але каб зрабіць веч, як гэта мы бачым робяць іншыя паслы і даць справаздачу з працы Сойму, то гэтага яшчэ п. пасол на ўчыніў ні разу, хаця-ж гэта ёсьць яго абавязкам зрабіць веч, расказаць сялянам, што добрага зрабіў Сойм для сялян Беларусаў.

Як вядома ў сялянстве найбольшай балячкай ёсьць рэформа рольная, другая балячка — гэта—Беларуская школа. Людзі, якія умеюць чытаць хоць троха і цікавяцца жыцьцём Безарусаў, бачаць, які паварот наступае ў кірунку беларускай асьветы у Польшчы. Дык яшчэ раз зварочваемся да вас, пане пасол, з просьбай зрабіць веч і разсказаць нам, цёмным, што робіцца добрага для нас Беларусаў. Мы Вас не паслалі, каб вы маўчалі. Мы Вас паслалі, каб Вы што-небудь рабілі і расказвалі нам. А аб Вас ні слуху, ні духу.

Выбачайця, што Вас патрывожылі, але гэта павінні зрабіць. Чакаем як найхутчэй.

**Нясьвіжанін.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

### Як атрымаць доўгатэрміновыя пазычкі ад Зэмляробскага Банку (Banku Rolnego).

Наша вёска задыхаецца ад адсутнасьці крэдыту на развой сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў, на палепшэньне гаспадаркі і пашырэньне яе галін.

У сучасны момант Дзяржаўны Земляробскі Банк (Państwowy Bank Rolny) ідзе на спатканьне гэтым патрэбам, удзеляючы доўгатэрміновыя пажычкі ў 8 прац. застаўных лістах на наступныя мэты:

а) на выплату кароткатэрміновых абавязкаў, зробленых на гаспадарчыя патрэбы; б) выплаты, выкліканыя распараджэньнямі па тастамэнту і справах сямейных; в) на сталыя, але ня надта каштоўныя гаспадарчыя будоўлі, маючыя на мэце павышэньне прадукцыйнасьці гаспадаркі, як то: перанос, рамонт і строй жылых і гаспадарчых будынкаў, закладка агародаў, садоў, пасек, ачыстку равоў і г. д.

Доўгатэрміновыя пазычкі цераз Земляробскі Банк мусяць быць забясьпечаны гіпатэчнай уласнасьцяй. У выпадках, калі тут перашкодай

зьяўляюцца даўнейшыя гіпатэчныя даўгі, пазычка можа быць атрымана тады, калі ацэнка ўласнасьці дазволіць пакрыць і гэтыя даўгі.

Пяршэнства на атрыманьне пазычкі ад Банку маюць дробныя гаспадаркі. Больш буйныя двары і засьценкі маюць атрымаць гэтыя пазычкі, калі яны знаходзяцца ў прамысловых і падгарадзкіх раёнах і маюць ня звыш 80 гэк. зямлі і на іншых абшарах — да 400 гэкт. (гэта датычыцца толькі ўсходніх крэсаў).

Уласьнікі грунтаў могуць дахадзіць пазычкі тады, калі яны заявяць гіпотэку на сваё імя

Арандатары сельскіх гаспадарак на пазычку права ня маюць. Гаспадары, зямельная ўласнасьць якіх знаходзіцца ў судовым споры — таксама Банк пазычкі не ўдзяляе.

Для атрыманьня пазычкі гаспадар мусіць злажыць прашэньне па абразцу, устаноўленаму Банкам з абазначэньнем адрэсу, разьмеру пазычкі, тэрміну яе платы, месца (павет і валасьць) зямельнай уласнасьці, яе абшар і мэта, для якой мае быць ужыта пазычка.

Да прашэньня на пазычку трэба далучыць наступныя дакумэнты:

1) Поўны выпіс з гіпатэчнага выказу (былы расейскі забор), 2) пасьведчаны цераз гміну статыстычны квэсьцінарыюш, 3) Страхавыя за бягучы год, 4) Пасьведчаньне ад гміны падстаўнасьці маючых гаспадарчых паляпшэньняў з іх коштарысам.

Апроч вышэйпералічаных дакумэнтаў, Банк можа патрэбаваць плян зямельнай ўласнасьці і мерны рэестр.

Па атрыманьні гэтых дакумэнтаў Банк распараджаецца аб ацэнцы ўласнасьці. Калі ацэньвае Банк, дык трэба на кошты выезду таксатара злажаць Банку за абшар да 25 гэкт. — 50 зл.; да 50 г. — 75.; да 100 г. 100 зл.; да 150 г. — 125 зл. і за кожныя 150 гэкт. звышка 25 зл.

На падставе ацэнкі цераз банкавага таксатара Банк удзеляе пазычку да 50 прац. вартасьці, калі ацэнка зроблена апроч Банку.

Пазычка ня можа быць дана, калі на падставе ацэнкі яна ня выносіць сумы, меншай 500 зл. у золаце.

Пазычкі могуць быць удзеляны на — 10 — 20 — 30 гадоў. Разьмер паўгадовых выплат з пакрыцьцем проценту і даўгі выносяць у польскіх злотах у золаце: а) пры пазычцы 10 гадавой — 7 зл. 50 гр.; 20 — гадоў — 5 зл. 6 гр.; 30 — гадовой — 4 зл. 43 гр. ад кожных 100 злотаў. Апроч гэтага пры кожнай раце будзе пабірацца на адміністрацыйныя выдаткі тры чацьвертыя проц. ад намінальнае сумы доўгу.

Поўгадовыя раты будуць платны 1-га красавіка і 1-га кастрычніка кожнага году.

Застаўныя лісты, атрыманыя, як пазычкі, цяпер цераз Банк рэалізуюцца на рахунак даўжнікоў, дзеля чаго апошнія атрымліваюць грошы гатоўкай.

Гаспарар, жадаючы атрымаць на вышэй азначаныя мэты пазычку, мусіць зьвяртацца з просьбай з Віленскага і Навагрудзкага ваяв. і з Ваўкавыскага і Гарадзенскага пав. — да Аддзелу Дзяржаўнага Землябробскага Банку (Oddziału Państwowego Banku Rolnego) Pohulanka 24. у Вільні; з Палескага і Валынскага — да Аддзелу ў Луцку. (Jagiellonska 107), а з іншых месц — да Wydziału Kredytu Długoterminowego Banku у Варшаве (Traugutta 11).

Трэба думаць, што нашы сяляне, карыстаючыся тут пяршэнствам, як дробныя ўласьнікі зямельных абшараў, скарыстаюцца з гэтай магчымасьці паставіць сваю гаспадарку на шлях дабрабыту. Гэтага вымагае ад нас агалочаны стан нашага Краю. **S.**

## Калі заворваць лубін.

Лубін усё больш і больш распаусюджваецца ў нашае староньцы. Што год сяляне на пяшчаных грунтах адпускаюць яму большыя абшары. І запраўды, лубін, як адзін гаспадар сказаў: „есьць зола пяскоў". Пры недахопах гною з хлявоў, лубін зьяўляецца незамянімым угнаеньнем нашых агалочаных глебаў.

Але каб гэта ўгнаеньне не траціла сваей вартасьці, гаспадар мусіць падабраць адпаведны час для яго заворваньня, бо ад гэтага залежыць якасьць Лубінавага ўгнаеньня. Самы лепшы час заворваньня лубіну будзе тады, калі ён будзе ў поўнай масе і яшчэ не пачне засыхаць. Усе досьледы над часам заворваньня лубіну на зялёнае ўгнаеньне гэту думку пацьвярждаюць.

Адзін гароднік паставіў пробу ў гэтым напрамку, якая дала наступныя вынікі;

Адвёўшы побач тры шнуркі зямлі з лубінам, ён гэтыя шнуркі заараў у розныя часы і у наступным годзе пасадзіў бульбу.

Са шнура заараная ў часе красаваньня лубіну гароднік накапаў бульбы 3 пуды са шнура, што зааараў, як толькі пачалі завязвацца струкі, накапаў 5 пуд. бульбы, а са шнура, на якім струкі былі ўсе і зярне ў лубіне сфарміравалася — 7 пуд.

Гэты просты досьлед красамоўна пацьверждае тэорэтычны погляд на час заворваньня лубіну.

Некаторыя практыкі раюць заворваць лубін аж увосень і бачаць, што ураджаі наступных збожжаў ад гэтага яшчэ павялічваюцца,

У нас лубін часта заворваецца пад жыта і тут гаспадар мусіць браць пад увагу тыя абставіны, што жыта нельга сеяць на сьвежа —узоранаму полю, бо ад гэтага пры асяданьні глебы рвуцца карэньні руні, што кепска адбіваецца на ўраджаю азіміны.

Разважаючы над гэтым, трэба лубін у нас пад жыта заворваць, як ён пачне даваць струкі і каб да часу севу жыта, ці пшаніцы было ня менш, як 3 тыдні. **Гаспадар.**

## Ад чаго на аўсе бывае іржа.

У нас на Беларусі сёлета зьявілася чорная іржаўчына і шмат пашкодзіла пасевам аўса. Сяляне ня ведаюць, як з ей змагацца, а іржа заваёўвае ўсё болшыя і большыя абшары.

Нападае іржа на авёс на грунтах мокрых і халодных. Вясна і наогул час росту расьліны спрыяюць яе множаньню. Заносіцца іржа на поле разам з насеньнем, або з дрэўцаў—барбарысу (па лацінску — Berberis Valgaris). Дзе гэта дрэўца расьце, там іржа больш усяго нападае на пасевы аўса.

Вось дзеля чаго ў першую чаргу пры змаганьні з іржой мы мусім поле ачысьціць ад гэтых дрэўцаў, на якіх зародкі зімуюць.

Апроч зьнішчэньня кустоў барбарыса, трэба ачышчаць і самае насеньне аўса ад іржы. Для гэтага трэба разьвясьці у вядрэ гарачай вады фунтаў пяць сіняга каменя (меднага купаросу), пасьля выліць гэту ваду ў 30-ці вядзёрную пасудзіну з рачной вадой і добра разьмяшаць усё. Потым у гэту ваду ўсыпаць авёс, які прыгатоўлен на насеньне, даўшы яму мокнуць у вадзе гадзін дзесяць. Каб не псавалася насеньне, раіцца яго патрымаць з гадзіну ў рашчыне вапны. Гэта апэрацыя з насеньнем ёсьць добры спосаб з вынішчэньнем іржы на аўсе.

Цяпер пад восень трэба падабраць свабодны час і павырываць кусты барбарысу, ды спаліць іх перад зімой.

Тут мы падалі лацінскі назоў барбарысу дзеля таго, што нашы сяляне неправідлова яго называюць яшчэ крушыньнікам, бо з апошнім ён нічога супольнага ня мае і ад крушыньніка адразьніваецца. На барбарысе лісьцё круглае, дробнае, расьце густа, колер маюць падобны да бацьвіньня і ягады растуць грэдзямі (кучкай), між тым крушына мае лісьцё трохі падобнае да вішні, бяз бліскучага налёта. Дык вось, толькі барбарыс трэба зводзіць, як заразу іржы на аўсе, а ня крушыну, якая тут ніколькі ня вінна ў заражэньні поля іржой.

## Паштовая скрынка.

Алесь Ручаёк: ў вершах вашых ідэя добрая, але самі яны нескладныя і надрукаваныя ня будуць.

Вясковы — Што Васіль Глоўдзь і Кастусь Калыска ў тёмнае ночы хацелі напасьці на М. Лявора з вёскі Ласёў, дый пабіць яго, ці абрабаваць—гэта нікога не цікавіць. Пішеце што небудзь агульна-грамадзкага характару.

Сярмяга — карэсландэнцыя атрымана.

Вуль-вуль-вуль. Карэспандэнцыя атрымана, №№ 3, 4 і 5 „Грамадзяніна" вышлем, але-ж трэба мець ваш дакладны адрас.

П. Асіповіч. Ліст ад 22 VII атрымалі. Адказ будзе пісьмом.

А. Вернікоўскаму, М. Смалонскай, Н. і Л. Маргайлік — вашыя справы парушаныя. Высылаем вам пісьмо.

Д. Курылю. Ліст атрымалі. Карэспанденцыю надрукуем.

Я. Пальчынскі і А. Марук — грошы атрымалі, газэта высылаецца.



## УСЯЧЫНА

### Паветраная Камунікацыя.

Як пішуць французкія газэты, у сучасны момэнт эўрапэйская лётная сетка мае 49.457 кілёмэтраў.

На першым мейсцу стаяць Немцы, якія маюць сетку у 17.706 клм. Далей ідуць Францыя, Галяндыя, Італія, Англія, Швэцыя, Аўстрыя, Польшча (восьмае мейсца у 1287 клм.) Швэйцарыя, Расея, Данія, Чэхаславія, Вэнгрыя Гішпанія, Албанія і Румынія.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Людвісарская 1